**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 47 (868) 24 лістапада 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by















ISSN 2077-8023







**У Глыбоцкім Доме рамёстваў адкрылася персанальная выстава маладога майстра Арцёма Фаміна пад назовам "Мінулае і сучаснае". На здымку: Арцём Фамін на адкрыцці выставы прэзентуе свае работы.** Працяг тэмы на стар. 11. *Фота Ул. Скрабатуна.*













## У Глыбоцкім раёне зноў здзейснены разбойны напад на пенсіянерку

■ **Сяржук Серабро**

**16 лістапада ў Глыбоцкім раёне быў здзейснены чарговы разбойны напад на жанчыну пенсійнага ўзросту.**

У дом да жыхаркі вёскі Стары Двор каля 20:30 праз акно пракраўся невядомы ў масцы і, пагражаючы нажом, запатрабаваў грошы. Пенсіянерка аддала 250 рублёў нападніку, пасля чаго ён схаваўся. Праз гадзіну жанчына звярнулася ў міліцыю.

Праваахоўнымі органамі ўсталявана, што разбойны напад здзейсніў раней асуджаны за крадзеж жыхар вёскі Галубчыкі. Падазраваны быў затрыманы, і частку выкрадзенага атрымалася канфіскаваць, паведамляе прэс-служба МУС.

Некалькімі днямі раней у іншай вёсцы Глыбоцкага раёна ў незачынены дом 92-гадовай пенсіянеркі ўвайшлі двое невядомых і аднялі ў яе 90 рублёў. Тады падазраваных таксама атрымалася затрымаць па гарачых слядах.

Браслаўскі раён

# Тупік замест адраджэння

■ Станіслаў Раманчук.

**Старанных і працалюбівых людзей заўжды хапала на беларускіх землях, аднак чамусьці шмат дзе ў глыбінцы вяскоўцы не маюць шчаслівай долі.**

Вось і ў аграгарадку Каз'яны, што ў Браслаўскім раёне, невясёлай атрымалася сустрэча яе жыхароў у мясцовым Доме культуры з прадстаўнікамі раённага кіраўніцтва. Яшчэ 20 гадоў назад у буйным населеным пункце, заснаваным у 1504 годзе на беразе ракі Дзісна, налічвалася 590 двароў. Аднак насельніцтва імкліва старэе, у пачатку новага стагоддзя ліквідавалі тут мясцовы сельсавет, у самім мястэчку са старажытнай царквой св. Духа пражывае зараз меней паўтысячы чалавек. Паўстала навогул цяпер пытанне ліквідацыі былой сярэдняй школы, якая была рэарганізавана ў базавую, загаварылі і аб закрыцці мясцовай музычнай школы. Устрывожаныя каз'янцы напісалі калектыўнае пісьмо з просьбай не рабіць такую аптымізацыю, аднак спецыяльная камісія райвыканкама сказала горкую праўду: трымаць тут школу з 7 асобных будынкаў эканамічна немэтазгодна з-за недахопу вучняў і сумнай дэмаграфічнай сітуацыі. Дзіцячы сад у аграгарадку наведваюць цяпер толькі 6 дзетак і таму з новага навучальнага года ў Каз'янах застанецца толькі пачатковая школа, а астатніх вучняў старэйшых класаў будуць вазіць вучыцца на новым аўтобусе за 17 км у школу гарпасёлка Відзы. Пасля гэтага сходу мясцовых жыхароў чакала новае засмучэнне. Пастановай урада Беларусі мясцовая гаспадарка ААТ "Новая Гвардыя" зацверджана ў пераліку тых, каго чакае працэдура банкруцтва з-за эканамічнай неплацежаздольнасці.

Пастаўскі раён

# На тое ён і крызіс

■ Кастусь Александровіч

**Сёлета, як ніколі раней, у многіх кутках краіны імкліва сталі нарастаць эканамічныя цяжкасці.**

Шэраг сур'ёзных праблем абрушыліся і на адзін з буйнейшых у вобласці Пастаўскі раён з даволі развітай прамысловасцю, які таксама ўваходзіць у пяцёрку вядучых па аб'ёмах прадукцыі сельскай гаспадаркі. Пасля правальнага 2015 года закрыўся тут сёлета Варапаеўскі завод жалезабетонных вырабаў. Раней, хоць на вышэйшым узроўні абяцалі запусціць айчынныя заводы, спынілі сваю дзейнасць у райцэнтры і былі ліквідаваны збанкрутаваныя кансервавы завод і мясакамбінат. Непрыемную працэдуру закрыцця на Пастаўшчыне перажылі таксама шклозавод "Гута" і спіртзавод у Лынтупах, Пастаўскі лесапункт, абласная псіхіятрычная бальніца, Пастаўская мытня, а таксама 7 калгасаў, 3 саўгасы, шэраг вясковых школ, клубаў, бібліятэк. Напрыканцы года трывожная сітуацыя ўзнікла ў горадзе ўжо і на заводзе "Белiт" з холдынга электронікі "Гарызонт", які ў пачатку вясны адсвяткаваў сваё 40-годдзе. Там апошнім часам было створана шмат новых рабочых месц, людзі нядрэнна зараблялі. Аднак неўзабаве зменяцца ўмовы працы ў свабодных эканамічных зонах і калі льготы для такіх вытворцаў не вернуць, то пасля Новага года вытворчасць тэхнічнай сурветкі на "Беліце" можа закрыцца і звыш двухсот чалавек, пераважна жанчын, страцяць працу. Не лепшы настрой у гэтыя дні і ў многіх працаўнікоў вёскі. Па рашэнні Савета Міністраў адразу чатыры мясцовыя сельгаспрадпрыемствы "Андроны", "Блакітныя азёры-агра", "Вярэнькі-агра", "Парыжагра" прызнаны банкрутамі. У чорны спіс патрапілі яшчэ 6 мясцовых гаспадарак, якія падлягаюць дасудоваму аздараўленню праз санацыю.

Полацкі раён

# Жыві і бойся

■ Чэслаў Якубовіч.

**Да нядаўняга часу ў нашай краіне пераважалі крадзяжы маёмасці і назіралася тэндэнцыя паступовага зніжэння крымінальных злачынстваў.**

На жаль, сёлета сітуацыя на Віцебшчыне змянілася і ўпершыню за апошнія 15 гадоў стала расці колькасць злачынстваў сярод падлеткаў, прычым групавых. Праваахоўнікаў непакоіць, што маладыя людзі рашаюцца на асабліва цяжкія парушэнні закона. У Полацку адкрыта двое такіх мярзотнікаў, якія асабліва нікога не баючыся, нахабна вырвалі з рук 67-гадовай мясцовай пенсіянеркі сумку з асабістай маёмасцю і кінуліся наўцёкі. Пацярпелая патэлефанавала ў міліцыю і па сігнале "Трывога" быў адпраўлены на месца здарэння нарад Полацкага аддзялення "Ахова" МУС Беларусі. Службовая сабака аўчарка ўзяла след і неўзабаве з яе дапамогай міліцыянеры затрымалі рабаўнікоў. Па гэтым факце была ўзбуджана крымінальная справа, злачынцаў могуць сурова пакараць. Імі, дарэчы, аказаліся заезджыя хлопцы ва ўзросце 16 і 17 гадоў, якія пражываюць у горадзе Барысаве. У нашы дні трэба ўсім людзям быць пільнымі, не пакідаць без нагляду сваю маёмасць. Гэта правіла праігнаравала яшчэ адна жыхарка Полаччыны і паплацілася за гэта. Яна толькі на некалькі гадзін пакінула днём незамкнёнымі дзверы сваёй кватэры. Такой магчымасцю без перашкод наведаццa ў госці скарыстаўся злодзей, які ўкраў ноўтбук коштам 300 рублёў. Праўда, пацярпелай яшчэ пашчасціла, бо следчыя аператыўна адшукалі 41-гадовага непрацуючага злодзея, які раней быў асуджаны таксама за крадзяжы.

# Аб самым надзённым

## РЭЗКАЕ ПАЦЯПЛЕННЕ ЎЗАЕМНЫХ АДНОСІН ВЫГАДНА ЯК ПОЛЬШЧЫ, ТАК І ЯШЧЭ БОЛЬШ НАМ, БЕЛАРУСАМ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Польшча – даволі развітая эканамічна і дэмакратычная дзяржава, польскія кампаніі ў стане дапамагчы сваім беларускім партнёрам хутчэй выйсці на еўрапейскія і сусветныя рынкі збыту, могуць стварыць з намі сумесныя прадпрыемствы.**

Іншы раз міжволі падумаеш, як шмат страціла наша краіна, калі яе кіраўніцтва выбрала аднабокі накірунак кантактаў пераважна з усходнім суседам Расіяй. Аднак зараз, па вобразным выказванні нават А. Лукашэнкі, у адносінах з рускімі мы працягваем "тэлепаться". На шчасце, сітуацыя міжволі пачала змяняцца і вельмі многіх суайчыннікаў парадавала рэзкае і інтэнсіўнае паляпшэнне добрых бізнес і іншых сувязей з нашай заходняй суседкай Польшчай. Напрыканцы кастрычніка абедзве краіны правялі ў Нацыянальнай бібліятэцы беларускай сталіцы юбілейны X сумесны эканамічны форум "Добрасуседства-2016".

Гэты форум быў вельмі прадстаўнічым і сабраў больш паўтысячы дзелавых людзей, уплывовых прадстаўнікоў бізнес-колаў. Адным з яго важных рашэнняў стане адкрыццё ў пачатку 2017 года пры падтрымцы адной з буйнейшых у Еўропе Варшаўскай фондавай біржы сумеснага беларуска-польскага цэнтра IPO. З яго дапамогай айчынныя прадпрыемствы змогуць актыўней атрымоўваць валюту на сваю мадэрнізацыю і на ўкараненне сучасных тэхналогій. У Мінску таксама было пацверджана, што палякі інвесціруюць сродкі на мадэрнізацыю трамвайнага руху ў Віцебску. Паміж шэрагам польскіх фірм і Беларускай універсальнай таварнай біржай наладзіліся ўзаемнавыгадныя кантакты.

Інакш і не павінна быць, бо палякаў і беларусаў аб'ядноўвае многае: геаграфічная і гісторыка-культурная блізкасць, падобныя і блізкія мовы, а таксама доўгая сумесная гісторыя, хрысціянская вера, знаходжанне стагоддзямі ў адной канфедэратыўнай дзяржаве. Немалаважны яшчэ фактар, што паміж двума нашымі народамі не было узброеных канфліктаў, напружаных адносін, паколькі ў нас пражывае значная польская меншасць. Адразу пасля распаду СССР палітыкі за Бугам прызналі суверэнітэт і незалежнасць Беларусі. Польшча стала другой у свеце пасля Украіны, хто ўстанавіў з беларусамі дыпламатычныя адносіны.

Неўзабаве ў Мінску і Варшаве сталі працаваць пасольствы, у абедзвюх краінах дзейнічаюць цяпер чатыры генконсульствы ў Гданьску, Беластоку, Гродне і Брэсце, яшчэ наша консульства ў Бяла-Падлясцы, часовы пункт консульскага прыёму ў Аўгустове. У далёкім 1992 годзе паміж Беларуссю і Польшчай быў падпісаны Дагавор аб добрасуседстве і прыязным супрацоўніцтве. Праўда, калі палякі адразу цвёрда і беспаваротна пайшлі на Захад, уступілі ў НАТО і Еўрасаюз, правялі паспяховыя рынкавыя рэформы, то афіцыйны Мінск наадварот пайшоў на збліжэнне з Расіяй, нават стварыў з ёй болей на паперы Саюзную дзяржаву, а па-сутнасці выпаў з агульнаеўрапейскай палітыкі добрасуседства, пайшоў на самаізаляцыю.

У выніку ва ўзаемаадносінах з палякамі былі розныя і нават халодныя перыяды, па маім перакананні мы многае страцілі, даволі сур'ёзна ад заходніх суседзяў адсталі па ўзроўні развіцця і дабрабыту. Праўда, Польшча засталася нашым важным гандлёвым партнёрам, а ў найбольш паспяховым 2008 годзе ўзаемны тавараабарот дасягнуў амаль 3 млрд. долараў пры станоўчым сальдо для беларусаў. Шчыра кажучы, на міжнароднай арэне Варшава ўвесь час старалася пераконваць Захад, што не трэба поўнасцю ізаляваць Беларусь, прагматычна дзейнічала, каб пакрыху выцягнуць нашу краіну са сферы поўнасцю расійскага ўплыву, а галоўнае імкнулася паважаць свайго суседа.

Пераломным у нашых адносінах стала агрэсіўная палітыка Расіі ў 2014 годзе з яе захопам Крыму і потым узброеным канфліктам у форме гібрыднай вайны з Украінай. Для палякаў важна было не згубіць усходні рынак ва ўмовах маскоўскіх антысанкцый. Яны сталі з намі наладжваць зноў узаемнавыгадныя сувязі, болей гандляваць, высока ацанілі беларускую нейтральную пазіцыю па вырашэнні крызісу ў Данбасе. Дарэчы, паміж простымі людзьмі кантакты і не спыняліся, беларусы найбольш атрымоўваюць шэнгенскія віз менавіта ў польскім пасольстве, найчасцей ездзяць у Польшу на закупы, да сваякоў, у турпаездкі. Так толькі летась у гандлёвых польскіх цэнтрах нашы суайчыннікі купілі тавараў на паўмільярда долараў, а вось палякі ў нас толькі на 15 млн., або на 60 млн. злотых.

Вельмі важна, што палякі, у адрозненне ад прыбалтаў, больш лаяльна адносяцца да узводзімай Беларускай АЭС і вельмі варагодна, што яны будуць купляць у нас танную беларускую электраэнергію з гэтай станцыі. Радуе, што хутка зноў расце ўзаемны тавараабарот, калі аб'ёмы гандлю з Расіяй і ў цэлым з ЕС падаюць. Беларуска-польскі дыялог ідзе па нарастаючай, гэтыя працэсы будуць ахопліваць усе сферы. Палякі першымі сталі наведваць нашу прыгранічную тэрыторыю без віз, цяпер загаварылі зрабіць такім і поезд па маршруце Кракаў-Гродна. Польшча – даволі развітая эканамічна і дэмакратычная дзяржава, польскія кампаніі ў стане дапамагчы сваім беларускім партнёрам хутчэй выйсці на еўрапейскія і сусветныя рынкі збыту, могуць стварыць з намі сумесныя прадпрыемствы. Грэх будзе не скарыстацца такой магчымасцю, бо беларусам і палякам ёсць што прапанаваць адзін другому, а суседзі за Бугам ужо цяпер сталі нашымі трэцімі па значнасці гандлёвымі партнёрамі.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 24.11.16 | | | | Пятніца 25.11.16 | | | | Субота 26.11.16 | | | | Нядзеля 27.11.16 | | | | Пан. 28.11. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | 0 | +1 | +4 | +2 | 0 | 0 | +1 | 0 | -1 | +1 | +3 | +4 | +4 | +3 | +3 | -1 | -2 | -3 | -3 |
| Ціск | 752 | 749 | 748 | 750 | 751 | 751 | 752 | 751 | 750 | 745 | 741 | 737 | 734 | 733 | 733 | 735 | 737 | 741 | 746 |
| Вецер м/сек | 4 | 4 | 4 | 5 | 3 | 2 | 2 | 3 | 4 | 7 | 7 | 8 | 8 | 6 | 8 | 5 | 6 | 8 | 8 |
| | Пд-З | Пд-З | З | З | З | Пн-З | Пн-З | З | Пд-З | Пд-З | З | Пд-З | З | З | Пн-З | Пн-З | Пн-З | Пн | Пн |
| Вільготнасць | 88 | 94 | 95 | 87 | 95 | 94 | 87 | 93 | 92 | 94 | 93 | 94 | 93 | 86 | 81 | 89 | 85 | 91 | 86 |

## Дзень за днём

**Расія не пайшла насустрач беларусам у справядлівых цэнах на газ. Урад Беларусі вызначыў 425 гаспадарак, якіх чакае банкруцтва альбо санацыя. Міністэрства працы і сацабароны абвергла чуткі аб скарачэнні пенсій працуючым пенсіянерам. Запазычанасці беларускіх прадпрыемстваў перад банкамі выраслі ў 1,9 разы. У больш паловы раёнаў краіны заробкі сталі меней 300 USD. Кіраўнікі урадаў краін ЕАЭС не ўзгаднілі ў Мінску праект мытнага кодэкса. Да канца 2020 года ў Беларусі запланавалі ўзвесці 22 буйныя свінакомплексы. Усе вобласці краіны вычарпалі свае ліміты крэдытаў на будаўніцтва льготнага жылля. За суткі шквалісты вецер абясточыў 400 населеных пунктаў краіны.**

# Важнейшыя навіны свету

**Германія.** Па дадзеных сацапытанняў, ужо трэць немцаў дапускаюць пачатак вайны паміж Расіяй і Захадам (ЗША і саюзнікі ў ЕС) з-за канфліктаў у Сірыі і ва Украіне.

**Ірак.** Пасля моцных авіяўдараў самалётаў міжнароднай кааліцыі войскі іракскай арміі ўвайшлі ў 1,5 мільённы горад Масул, які з 2014 года знаходзіўся пад кантролем баевікоў.

**Кітай.** На буйным авіясалоне ў Чжухае ўпершыню прадставілі навейшы кітайскі ваенны самалёт-знішчальнік пятага пакалення Chenqdu J-20 з супрацькарабельнымі ракетамі.

**Украіна.** Главары самаабвешчаных псеўдарэспублік “ДНР” і “ЛНР” сінхронна зноў перанеслі на нявызначаны тэрмін правядзенне мясцовых выбараў органаў улады.

**Англія.** Глава брытанскай разведкі Э. Паркер заявіў, што Расія ўяўляе зараз самую вялікую і растучую пагрозу для бяспекі краіны, у яе арсенале стала больш метадаў.

**Грузія.** У выніку адных з самых зацяжных выбараў правячая партыя “Грузінская мара – Дэмакратычная Грузія” атрымала ў парламенце канстытуцыйную большасць.

**Італія.** Дзясяткі тысяч чалавек засталіся без жылля ў выніку самага магутнага з 1980 года чарговага землятрусу ў цэнтральнай частцы краіны, стыхія пашкодзіла гарады і вёскі.

**Германія.** Федэральны ўрад папярэдзіў 10 мясцовых энергетычных кампаній аб планах поўнасцю адмовіцца ад выкарыстання газу ў краіне, гэта моцна ўдарыць па “Газпраму”.

**Расія.** Палітолаг, прафесар МДІМА В. Салавей заявіў, што ў бліжэйшыя 2 гады ў РФ пачнуцца кардынальныя змены з-за цяжкога крызісу, ціску на людзей і несправядлівасці.

**Кітай.** На перасяленне 10 млн. беднякоў з цяжкадаступных і маланаселеных раёнаў краіны і ўзвядзенне для іх жылля ўрад да 2020 года выдзеліў 140 млрд. долараў.

**ЗША.** Амерыканскія вучоныя-фізікі распрацавалі новы тып з трохмерных алмазных чыпаў для носьбітаў электроннай інфармацыі з аб’ёмам памяці ў 100 разоў болей.

**Швецыя.** Славутая чацвёрка шведскай групы АВВА, якая распалася ў 1982 годзе, зноў вырашыла аб’яднацца разам для ўдзелу ў новым музычным лічбавым шоу.

**Расія.** Вядомы журналіст А. Няўзораў заявіў, што не існуе ніякага паняцця рускай нацыі, усё рускае аўтэнтычнае знішчалася Ардой, Пятром, потым царскімі і савецкімі ўладамі.

**Ізраіль.** Падчас рэстаўрацыі вучоныя-археолагі знялі мармуровую пліту з надмагільнага ложа Хрыста ў Ягонай магіле ў Іерусаліме, каб высветліць рэальны стан святых камянёў.

**Расія.** Рэзкую крытыку К. Райкіна расійскіх улад падтрымалі мастацкі кіраўнік Тэатра нацый Я. Міронаў і група вядомых расійскіх дзеячаў культуры і праваабаронцаў.

*Служба інфармацыі “ВГ”(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## МПЗ прапануе пашырыць пералік відаў дзейнасці, якія не адносяцца да прадпрымальніцкай



■ Кар. БЕЛТА

**Міністэрства па падатках і зборах прапануе пашырыць пералік відаў дзейнасці, якія не адносяцца да прадпрымальніцкай, паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе МПЗ.**

«Міністэрства па падатках і зборах Беларусі распрацавала праект указа «Аб некаторых пытаннях рэгулявання дзейнасці фізічных асоб», накіраваны на стварэнне ўмоў па ўключэнні незанятага насельніцтва ў легальны бізнес. Праект прадугледжвае пашырэнне пераліку відаў дзейнасці, якія не адносяцца да прадпрымальніцкай», - растлумачылі ў МПЗ. У прыватнасці, пералік прапануецца дапоўніць такімі відамі дзейнасці, як рамонт па заказах спажыўцоў гадзіннікаў, абутку; рамонт і аднаўленне хатняй мэблі (за выключэннем перацяжкі мэблі) па заказах спажыўцоў; аказанне спажыўцам паслуг па зборцы мэблі; аказанне спажыўцам паслуг па наладцы музычных інструментаў; па распілоўцы і колцы дроў, пагрузцы і разгрузцы грузаў; вытворчасць па заказах спажыўцоў адзення (у тым ліку галаўных убораў) і абутку з матэрыялаў заказчыка; выкананне па заказах спажыўцоў тынкавых, малярных, шкляных прац, работ па прыладзе пакрыццяў падлогі і абліцоўванні сцен, муры (рамонце) печаў і камінаў. Праект указа замацоўвае абавязак фізічных асоб выраблаць выплату адзінага падатку пры ажыццяўленні такіх відаў дзейнасці. Адначасова ўсталёўваюцца базавыя стаўкі адзінага падатку, у межах якіх абласныя і Мінскі гарадскі Саветы дэпутатаў абавязаны будуць усталяваць канкрэтныя памеры ставак адзінага падатку па кожным відзе дзейнасці. У цяперашні час фізічным асобам прадастаўлена права без праходжання працэдуры дзяржаўнай рэгістрацыі ў якасці індывідуальнага прадпрымальніка самастойна ажыццяўляць 18 відаў дзейнасці, звязаных з аказаннем паслуг (выкананнем работ), якія не адносяцца да прадпрымальніцкай дзейнасці. Пры ажыццяўленні такой дзейнасці ў інтарэсах насельніцтва фізічныя асобы плацяць адзіны падатак. Праект указа «Аб некаторых пытаннях рэгулявання дзейнасці фізічных асоб» размешчаны для абмеркавання на афіцыйным сайце Міністэрства па падатках і зборах у раздзеле «Абмеркаванне законапраектаў». Заўвагі і прапановы па гэтым праекце варта накіроўваць у МПЗ да 25 лістапада на электронны адрас: mns-press@nalog.gov.by з пазнакай «Аб дзейнасці фізічных асоб».

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Намеснік міністра па падатках і зборах С. Шаўчэнка пацвердзіла, што ў няпростых жыццёвых сітуацыях на месцах людзей могуць вызваляць ад выплат збору на “дармаедаў”

**Бабруйск.** Гараджаніну прыйшлося даказваць у падатковай інспекцыі, што яго сын – не дармаед, бо вучыцца ў Празе, у спіс “лайдакоў” уключылі каля 8 тысяч бабруйчан.

**Мазыр.** Мясцовы НПЗ з-за недахопу сыравіны пачаў перапрацоўку нафты з Азербайджана, якую па моры даставілі ў порт Адэсы, а адтуль - цыстэрнамі па чыгунцы.

**Ждановічы.** Следчы камітэт распачаў крымінальную справу за злоўжыванні ўладай і хабар супраць старшыні сельсавета ля сталіцы, такія ж махінацыі рабіў і яе папярэднік.

**Мінск.** Рэальнае беспрацоўе ў Беларусі, як заявіў савет БКДП, складае 7-8 % ад эканамічна актыўнага насельніцтва, хоць афіцыйная статыстыка малюе лічбу 1,5 %.

**Рэчыца.** З-за пераводу аплаты паслуг ЖКГ на новую электронную праграму ў горадзе “прапала” 10 тысяч рахункаў абанентаў, у банках і на пошце ўзніклі велізарныя чэргі.

**Мінск.** На пасяджэнні Рэспубліканскага клуба дырэктараў М. Наруцкі заявіў, што з-за неплацяжоў будаўнічая галіна на мяжы гібелі, многія будтрэсты ўжо расфарміраваны.

**Гродна.** Першымі турыстамі, якія без віз наведалі горад і Аўгустоўскі канал, стала дэлегацыя на чале з маршалкам Падляскага ваяводства з Беластока Ежы Ляшчынскім.

**Мінск.** Ваенны эксперт А. Алесін спрагназаваў, што Беларусь пры няпростых адносінах з Расіяй не пойдзе на продаж Украіне беларускіх сістэм для навядзення ўкраінскіх ракет.

**Салігорск.** У выніку абрыва троса і падзення будаўнічай люлькі на тэрыторыі прадпрыемства “Беларуськалій” загінуў рабочы, яшчэ трое патрапілі ў бальніцу.

**Мінск.** Большасць беларусаў, як заявіў паліталаг В. Карбалевіч, задавальнае існуючая мадэль дзяржавы, хоць яна ўжо вычарпала сябе, эканоміка не развіваецца, народ бяднее.

**Буда-Кашалёва.** Падчас снегападу на слізкай дарозе перакуліўся рэйсавы аўтобус МАЗ на Гомель, у выніку аварыі загінула 49-гадовая пасажырка, другая атрымала цяжкія траўмы.

**Рагачоў.** Некалькі гадзін тушылі ноччу пажар пажарныя на тэрыторыі мехдвара калгаса “Новы шлях” пасля падпалу скірд з саломай, полымя знішчыла больш 35 тон маёмасці.

**Лоеў.** У райцэнтры распачалі крымінальную справу па факце крадзяжу грошай у настаўнікаў з лабаранцкай адной са школ іх вучнямі з 5-га і 9-га класаў.

**Раўбічы.** Праз месяц пасля родаў дзяўчынкі трохразовая алімпійская чэмпіёнка Дар’я Домрачава зноў распачала рэгулярныя трэніроўкі, яна плануе вярнуцца ў біятлон.

Служба інфармацыі *“ВГ”(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** На заводзе “Палімір” выпусцілі 1-мільённую тону паліакрыланітрытнага валакна “Нітрон-Д”, якое добра расходзіцца на рынках Еўропы, Азіі, Паўднёвай Амерыкі.

**Віцебск.** Віцэ-прэм’ер А. Калінін правёў у абласным цэнтры рэспубліканскую семінар-нараду па рэалізацыі інвестпраектаў і развіцця прыватнага бізнесу ў будаўнічай галіне.

**Глыбокае.** З 8-й спробы на аўкцыёне прадалі яблыневы сад і участак смародзіны агульнай плошчай 65 га збанкрутаванага кансервавага завода “Купцовъ”, яго зімой ліквідуюць.

**Верхнядзвінск.** Прыватная фірма “АурумГруп” упершыню рэалізавала больш 100 тон бульбы новага ўраджаю ў Малдову, а фірма “Теора” – партыю лесаматэрыялаў у Латвію.

**Расоны.** На працу ў раён прыбылі 45 маладых спецыялістаў, у 2 разы болей, чым летась, упершыню усіх іх забяспечылі жыллём у інтэрнатах альбо ў арэндных кватэрах.

**Докшыцы.** Яшчэ амаль на 13 кіламетраў павялічылася сетка газаправоду ў гарадскім пасёлку Бягомль, аграгарадку Параф’янава і ваколіц, газіфікавалі сёлета 63 кватэры і 53 уласныя дамы.

**Наваполацк.** Работнікі стратнай гандлёвай сеткі “Базіс” з 17 магазінаў замест авансу атрымалі сертыфікаты на пакупку ежы і прамтавараў, яна на грані банкруцтва.

**Браслаў.** У рэанімацыі райбальніцы ад атрыманых апёкаў пры растопцы печы бензінам памёр 57-гадовы мужчына, труп самагубцы знайшлі ў хмызняку ля вёскі Карасіна.

**Глыбокае.** Дзякуючы пільнасці пажылых праходжанак мясцовага касцёла міліцыя затрымала злодзея-пенсіянера, які падчас імшы ўкраў каштоўнасцяў на 5 тысяч USD.

**Пастаvы.** Выязная калегія абласнога суда пакарала 22 гадамі турмы 56-гадовага мясцовага жыхара, які ў пачатку года забіў пенсіянерку ў яе доме і напаў на паштальёнку.

**Шаркаўшчына.** Супрацьдзеянне 61-гадовага бацькі і 37-гадовага сына распачалі крымінальную справу за ўгон аўто ў райцэнтры, на якім яны абодва п’яныя вырашылі з’ездзіць у магазін.

**Лёзна.** Украінскага дэпутата Н. Саўчанка не пусцілі на аўтамабілі праз расійскую граніцу на Смаленшчыне, яна вярнулася ў Мінск, адкуль прыляцела ў Маскву на самалёце.

**Дуброўна.** Суд Оршы пакараў дадаткова 5 гадамі турмы 37-гадовага жыхара раёна за публічнае зневажанне суддзі, следчага і пракурора і лжывыя звесткі аб атрыманні хабару.

**Глыбокае.** Пасля пераправеркі допінг-проб МАК абавязаў глыбачанку М. Шкерманкову вярнуць бронзавы медаль і дыплом Алімпійскіх гульняў 2012 года ў Лондане.

**Лепель.** ФК “Лепель” перамог з лікам 2:1 у рашаючым матчы сеннескі “Камунальнік” і стаў чэмпіёнам Віцебскай вобласці па футболе, “бронзу” выйграла каманда з Міёр.

*Служба інфармацыі “ВГ” (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Загадкавае прароцтва глыбоцкіх старцаў

## У серыі кніг "Падарожжы Свабоды" выйшла кніга Змітра Бартосіка "Быў у пана верабейка гаварушчы..."

■ Уладзімір Скрабатун

**Зміцер Бартосік, бард, журналіст Радыё Свабода, аб'ездзіў хіба што ўсю Беларусь. Вёў на Радыё рубрыку "Падарожжы Свабоды". У кожнай вёсцы, як на ўсходзе Беларусі, так і на захадзе, запісваў з аповядаў тамтэйшых людзей унікальныя жыццёвыя гісторыі.**

Кніга аўтара прысвечаная Змітру Лупачу, аднаму з аўтараў нашай газеты. Так, Зміцер Лупач са Змітрам Бартосікам аб'ездзілі не толькі Глыбоччыну, але і суседнія Пастаўшчыну, Шаркоўшчыну. Зміцер Лупач знаходзіў для аўтара радыёперадачаў, а цяпер і кнігі, цікавых апавядальнікаў, сведкаў падзеяў, быў для яго гідам па нашых вёсках.

Таму лагічна, што першая прэзэнтацыя на Беларусі – у сяброўскім коле – прайшла менавіта ў Глыбокім.

**Заўвага:** цытаваныя далей тэксты, адпавядаюць правапісу і стылю арыгінала, якія пададзеныя аўтарам кнігі.

Мы не цытуем тут гісторыі цалкам, а толькі кароткія ўрыўкі з іх.

Чаму кніга атрымала назоў "Быў у пана верабейка гаварушчы..."?

Так, у пана быў папугай, які мог "гаварыць", аднак сяляне не ведалі слова "папугай", таму назвалі яго "верабейкам гаварушчым".

Запісаная гэтая гісторыя ў вёсцы Дзямідаў Нараўлянскага раёна Гомельскай вобласці. Дзіва – на ўсходзе Беларусі, які на 20 гадоў быў больш пад бальшавікамі, чым нашыя землі, людзі там – усё яшчэ памятаюць "панскія часы".

Сялянка Ганна Дуда апавядае пра пана Горвата:

*– Добры быў чалавек. Ніколі нікога не пакрыўдзіць. Быў у яго верабейка такі, баба расказвала. Напэўна, папугайчык. Бо ён гаварыў. Яны ж колісь ня ведалі, што гэта. Дык казалі – верабейка гаварушчы. І ўсё пану расказваў. Ён паазірае, што тыя слугі робляць, ды ўсё пану і раскажа, як пан прыйдзе. Верабейка. Дык тыя слугі ўзялі і зашылі яму жопу. Прыйшоў пан. А той кажа: "Шыла-шыла дый зашыла". Так і прапаў той верабей. Здох. Зашылі яму жопу. А так вельмі добры быў пан.*

Пан, натуральна, так і не здагадаўся, што зашылі папугаю жопу, бо не маглі ж слугі зашыць яму дзюбу, бо "верабейка гаварушчы" быў. Але квінтэсэнцыя тут у іншым – потым заміж пана прыйшлі сюды бальшавікі, якія не толькі "зашылі" ўсім жопы, але і рты! Каб не гаварылі абы чаго, і не абураліся новымі парадкамі!

Не менш маляўнічая гісторыя, таксама, запісаная на ўсходзе Беларусі – ля самай мяжы з Расіяй!

**Конь з валом не часўся...**

***Як вёскі шляхоцкія ня зналіся з мужыцкімі.***

Гэтая гісторыя паходзіць з вёскі Судзілы Клімавіцкага раёна. Да сёння вакольныя вёскі дзеляцца на мужыцкія і шляхоцкія. Цяжка гэта ўявіць, бо прайшло 99 (!) гадоў з часу Кастрычніцкай рэвалюцыі. Усход Беларусі! Неверагодна, але і да сёння там мужыкі варагуюць са шляхтай!

*– Яны шкодныя людзі,–* кажа Ніна Ціхонаўна Мартышэўская. *– Шляхта лепшая была. Працей была. Далібог, працей. Раней рэдка хто возьме мужычку замуж. Стараліся шляхта са шляхтай. І харанілі асобна. Мужычкі асобна, а шляхта асобна. Пасьля перамянілася. Ну што казаць? У мяне ўсе нявесткі з мужыкоў. Яны ж някепскія. Ну, бывала, у дзяцінстве ідуць сабалёўцы. Мы крычым:*

***"Сабалёўцы таўкачы, неслі сучку на плячы".***

*Дык яны нас бівалі каменьнем. Дур была. Дзяцінства. Яны бедна жылі. У калодках хадзілі такіх. Стук-стук-стук. Ой, беднасьць была.*

*– У Сабалёўцы нікога не раскулачылі, у Прудку таксама нікога. А ў нас – так. Сьцяпана засудзілі. Пасеяў авёс. А тут дождж заліў на тыдзень. І не пасьпеў сабраць. Дзесяць гадоў далі. Ваньку Барысіка. У яго алейня была. Гэта страшны буржуй.*

– Пасьля бальшавіцкай рэвалюцыі прайшло амаль сто гадоў,– адзначае аўтар кнігі. – А тут, на краі беларускага сьвету, вёскі да гэтае пары дзеляцца на шляхоцкія і мужыцкія. Як ні старалася новая ўлада сьцерці гістарычную памяць, а насельнікі былога Мсьціслаўскага ваяводзтва ўсё адно захоўваюць памяць пра сваё паходжаньне. Напрыклад, суседняя вёска Сідараўка – шляхоцкая. І два яе старажылы, Мікалай Букініч і ягоная жонка Ніна, адразу гасьцінна ўсьміхаюцца, варта толькі прамовіць слова "шляхта".

*– Шляхта была зажытачная была. А мужычкі бяднейшыя. Тут і прозьвішчы шляхоцкія. Судзілоўскія, Галкоўскія, Людагоўскія. А там зусім іншыя... Дзеда майго раскулачылі. Хату аднялі. У Сыбір саслалі. Але ён вярнуўся. Хату яго забралі пад школу. Ягонай дачкі хату сабе ўчастковы забраў. Вытурылі іх. Хто працаваў, той свалачуга. Ідзі ў Сыбір.*

Шмат цікавага запісана і ў нашым краі.

**Камунізам – камуверхам.** (Каму – нізам, каму – верхам)

Майскі ранак.Птушак сьпеў.
Цёплы ветрык вее.
Хто загнуцца не пасьпеў,
Нешта рупна сее.

Ні каня, ні бараны,
Ні капейкі грошай,
Нават дошак для труны
Не знайсці харошых.

– Гэтыя два чатырохрадкоўі мне ўбіліся ў памяць у 2007 годзе,– адзначае Зміцер Бартосік. – І за прамінулыя гады ня тое што не забыліся, а неаднойчы ўсплывалі ў памяці ўсякі раз, як бачыў гібеючыя беларускія вёскі. Лепш і ня скажаш. Напісаў тыя поўныя горкай іроніі радочкі чалавек з чатырма клясамі адукацыі, які ўсё жыцьцё прарабіў калгасным пастухом, але пры гэтым валодае ўнікальным дарам апісаць сёньняшнюю рэчаіснасьць з гумарам і болем адначасова. Люцыян Шчасны зь вёскі Хрыстова, што пад Глыбокім. Пагаварыць зь ім заўжды ёсьць пра што.

Леакадзія Іванаўна з іншай вёскі Варанцы бачыла многа ўладаў, але ніякай зь іх не малілася. А яе жарт на адрас слова "камунізм" – выдатная ілюстрацыя таго, як былыя гаспадары ставіліся да новых паноў.

*— Каму нізам, каму верхам. Нацярпеліся ад калгасаў. Былі ж людзі, што не ішлі ў калгас. Суткамі сядзелі — пішыце заявы. Бацька толькі загадаваў коніка. Пасадзіў мяне. «Праедзь, дачушка, апошні раз. Ужо коніка ў нас ня будзе». Ня дай ты Бог, як калгас мучыў. Мама хворая, бацька кінуў, я малая. Прыйшлі, соткі адабралі. Кукурузу засеялі. Божачка, што нацярпеліся. Рабіла, рабіла — пуд жыта далі. Зь вёскі цягнула 13-гадовае дзіця на плячах. А як жа пакінуць у вёсцы? А хто адбяро жменьку гэтага жыта, а гэта ж булачка хлеба будзе. І касіла, і арала, усё рабіла сама. За мяшок мякіны бабку пасадзілі. Не было ж чым кароўку карміць, ноччу хадзілі красьці. Мякіна гэтая была ільняная і ячменная. Пайшла баба ноччу красьці, а там сядзелі. За мяшок мякіны год адседзела.*

Нямала цікавых жыццёвых гісторый запісана для эфіру на Радыё Свабода, якія потым ляглі ў кнігу, і ў самім Глыбокім. Найперш, гэта ўспаміны глыбачан, і жыхароў бліжэйшых вёсак, пра легендарнага агранома Баляслава Лапыра, які лічыцца пачынальнікам вішнёвых садоў на Глыбоччыне.

– Старая Ганна Чарапкоўская разьмяняла нядаўна дзясяты дзясятак,– піша далей Зміцер Бартосік. – Але гэтага чалавека памятае выдатна.

*– Лапыр? Помню, помню. Ведаю яго. Добры чалавек быў. Да людзей добры быў. Мой мужык хадзіў на работу да яго. І мужык мой хадзіў да яго на работу, і сястра. Лапырка прыяжджала да сьвякроўкі да маёй. І гаварыла як простыя чалавек. Не задавалася.*

– Кажуць, ён дапамагаў людзям.

*– Шарабаі, такая ёсьць вёска. Дык у іх цыбуля не расла. Дык ён пайшоў да іх. Нічога не рабіў. Узяў на язык зямлі. І скажаў — вось тут садзіце. І пасьля Шарабаі пастаянна прадавалі на кірмашы цыбулю. Во аграном! На язык узяў зямлі і сказаў.*

– Ён гаварыў па-беларуску?

*– Гаварыў. Не палячыў. І вішні, і сьлівы, і яблыкі. У яго такія сарты былі, што ў вёсцы такіх не было.*

**Але Беларусь будзець.**

– Але найбольш азадачыла мяне гісторыя ад карэннай глыбачанкі Яніны Бацяноўскай, – піша далей Зміцер Бартосік, – удавы Альберта Бацяноўскага, сябра Саюзу беларускіх патрыётаў. Пані Яніна распавяла пра двух дзіўных глыбоцкіх старых, якія яшчэ ў 1930-я гады прадбачылі будучыню і прадказвалі многія падзеі. У тым ліку нашага часу.

*– У нас тут былі прадказальнікі такія. І, паводле іх прадказанняў, ад Расеі шмат аддзеліцца краін. А ад самой Расеі застанецца 7 губэрняў. А ўвесь Дальні Васток, Урал, усё адыдзе, Смаленск – гэта Беларусь. А ў Расеі толькі 7 губэрняў застанецца. Прадказальнікі памерлі даўно, у 1930-я гады. Яны нават прадвяшчалі вайну 1939 году. Казалі, што будзець вельмі крывавая вайна. Шмат чаго прадвяшчалі. Пра Беларусь гаварылі. Дык людзі сьмяяліся. "Як гэта Беларусь будзець самастойная дзяржава, калі ў яе нічога няма?" Людзі смяяліся, а яны гаварылі, што Беларусь будзець самастойнай. І будзець многа мяняцца кіраўнікоў. І толькі трэці зробіць Беларусь самастойнай дзяржавай. Трэці. Гэтых вешчуноў клікалі Пятрусь Глаўніцкі і Янук Новік. Яны былі зусім не пісьменныя. Набожныя, праваслаўныя. "Хочаце верце, хочаце ня верце. Але Беларусь будзець".*

***

**Меркаванні:**

Я была ў захапленьні, калі прачытала Вашае «Падарожжа» на маю радзіму. У мяне быў такі рогат... Я атрымала задавальненьне... Я столькі гадоў там не была. І, канечне, жахнулася. Не нашмат вырас узровень нашых настаўнікаў. Такое ў мяне было адчуваньне пасьля Вашай вандроўкі... Калі ёсьць Вашы матэрыялы, я Вас часта чытаю. Мне падабаецца Ваша іронія над нашым жыцьцём.

***Сьвятлана Алексіевіч**, пісьменьніца, Лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры 2015 года.*

***

Падарожжы Зьмітра Бартосіка адкрываюць нам Беларусь, схаваную за афіцыйным фасадам. Там іншыя сьцяг і герб. Там сьвяткуюць несавецкія сьвяты і згадваюць добрым словам пана. Там калгаснае поле ператвараецца ў поле бітвы...

***Уладзімер Арлоў**, пісьменьнік.*

***

Перадача Бартосіка «Падарожжы Свабоды» – адна з найцікавейшых краязнаўчых публіцыстычных праграм. Для мяне з 2012 году сымбалем гэтай праграмы стаў «гаварушчы верабейчык з зашытай жопай»... Маім калегам і сябрам гэтая перадача настолькі спадабалася, што на дзень нараджэньня мне падаравалі плюшавую птушку з адмыслова зашытай задніцай. І зараз гэтая птушка вісіць над маім ложкам.

***Антон Астаповіч**, гісторык.*



**Прэзэнтацыя кнігі Змітра Бартосіка "Быў у пана верабейка гаварушчы..." у сяброўскім коле. Глыбокае,** 18.11.2016. *Фота Ул. Скрабатуна.*






**Люцыян Шчасны з вёскі Хрыстова, што пад Глыбокім.**

# Якая мараль, такое і жыццё

*“Прырода дала чалавеку зброю – інтэлектуальную і маральную сілу, але ён можа карыстацца гэтай зброяй і ў зваротны бок, таму чалавек без маральных прынцыпаў аказваецца істотай самай грэшнай і дзікай, ганебны ў сваіх палавых і смакавых інстынктах.” .*
*Арыстоцель*



**Фадзей Шымуковіч,** *педагог, г. Дзісна*

Усё, што адбываецца ў сферы эканомікі, вызначаецца не абстрактнымі тэорыямі, а духоўнымі, якія пануюць у грамадстве. Якая мараль, такая і культура. Якая культура, такая і прававая культура. З прававой культуры выцякаюць законы, якія ў сваю чаргу і вызначаюць усе эканамічныя працэсы. У грамадства няма будучыні, калі яно падтрымлівае ўстойлівасць амаральных законаў, у адпаведнасці з якімі хлебароб, шахцёр, настаўнік, урач маюць прыбытак у 100, 200 разоў меншы, чым у кіраўніка нафтавай кампаніі. Гэтыя ж фантастычныя прыбыткі дасягаюцца элементарным прысваеннем таго, што належыць усяму народу. Гэта ж газ, нафта, іншыя карысныя выкапні фарміраваліся мільёнамі гадоў і ў роўнай меры належаць і ўрачу, і настаўніку, і трактарысту. Нафтавікі павінны атрымоўваць зарплату за сваю працу па яе здабычы, а сама нафта павінна прадавацца дзяржавай, і прыбытак ад продажу павінен ісці ў дзяржбюджэт. Вось тольki тады можна будзе гэтыя вялікія грошы пусціць на карысць грамадства. “Але маральнасць уладальніка гэтай нафтавай кампаніі не дазваляе” яму зрабіць такі крок. Ён ніколі добраахвотна не выпусціць са сваіх рук такую звярхпрыбытковую справу. А такія маральныя якасці як сумленне, сорам, чалавечнасць і іншыя ён даўно згубіў і лічыць іх перажыткам мінулага.



Кожны з нас будзе адказваць за тое, што робіць. Падзенне культуры адбываецца ад таго, што мы згубілі сорам. Рускія купцы на Ніжагародскім кірмашы пад чэснае купецкае слова здзяйснялі пагадненні на вялізныя сумы, і іх слова было цвярдзейшае за граніт. Ніхто не наважваўся яго парушыць. Імя даўжніка купец запісваў мелам над дзвярамі. Калі даўжнік зацягваў з вяртаннем пазыкі або аплаты за тавар, купец казаў: “Я цябе ў парашок сатру”. Гэта азначала, што купец сціраў гэта імя ў парашок, назаўсёды выдаляў з памяці і аддаваў даўжніка на Суд Божы. Не помсціў, не судзіў. Учынак даўжніка станавіўся вядомым іншым купцам. З ім ніхто не хацеў мець ніякіх спраў, гэта быў сорам на ўсё жыццё. І гэтага баяліся. Што ж мы маем сёння. Бесперапынныя няўплаты за атрыманы тавар. Вымушаны ўвесці папярэднюю аплату. Раней было ўсё строга ўнутры чалавека. Людзі разумелі, што няма такога кантролю, які мог бы захаваць ад нахабства і подласці, акрамя вышэйшага Суда. Калі чалавек верыць, ён не будзе жыць несумленна.

А што мы маем сёння? Адзін аднаго стараемся падмануць, абрабаваць, прыбраць са сваёй дарогі. З’явілася новая прафесія – кілер, чалавеказабойца за грошы, па замове.

Цікавае інтэрв’ю дала часопісу “Аднак, жыццё” тэлевядучая Алена Малышава. Я дазволю сабе прывесці яго поўны змест: “Некалі мой шэф, прафесар Мейерсон, запытаўся ў мяне: “Як ты думаеш, што самае галоўнае ў людзях?” Я адказала: “Розум, таму што з разумнымі людзьмі зносіны цікавыя”. Ён запярэчыў мне: “Дурніца ты, дурніца. Самае галоўнае, каб чалавек быў прыстойным. З такім чалавекам можна працаваць”. Магу сказаць, што з гадамі я пастаянна знаходжу пацверджанне гэтай ісціне. Не люблю людзей без гонару і годнасці. Проста не вынашу, цярпець не магу. Не люблю падманшчыкаў і тых, хто не трымае сваё слова”.

Не вечныя мы ў гэтым жыцці. Так пабудавана Прыродай. Але амаль кожны нармальны чалавек стараецца штосьці пакінуць на гэтым свеце. Калі мы дасягаем канца нашага жыцця, адзінае, што будзе мець нейкае значэнне, – гэта тая любоў, якую вы аддалі і атрымалі. У сваім падарожжы ў наступны свет адзінае, што вы можаце ўзяць з сабой, – гэта любоў. Адзіная каштоўная рэч, якую пакініце вы на гэтым свеце, – гэта любоў. Больш нічога. Многія з нас лёгка пераносілі ў жыцці цяжкасці і былі шчаслівыя, але няма чалавека, які мог бы перанесці жыццё без любові. Вось чаму любоў – гэта велічны дар жыцця. Яна прыдае жыццю сэнс. Менавіта дзякуючы ёй патрэбна жыць. Чалавек, які валодае глыбокім пачуццём сапраўднай любові, маральна не здольны на подласці, а тым больш, на злачынства.

# Не падабаецца – дзяцей адбярэм!

**Скандальную гісторыю з Докшыцкага раёна апісала газета “Советская Белоруссия”, орган адміністрацыі прэзідэнта. Прыстойная шматдзетная сям’я з Мінска перабралася ў Докшыцкі раён, ды ім прыйшлося ўцякаць, бо начальнікі задзяўблі бясконцымі праверкамі, а потым і ўвогуле прыгразілі адабраць дзяцей.**



■ **Кастусь Шыталь,** *westki.info*

Аляксандр Пасталоў з Мінска з жонкай і чатырма дзецьмі вырашыў перабрацца ў вёску. Бо ў двухпакаёвай кватэры цесна. Аляксандр купіў дом у вёсцы Дубавое. Ён прадпрымальнік, рэстаўруе мэблю. А на вёсцы думаў яшчэ і курэй, трусоў гадаваць, каб мяса і лішні грош мець. Аддаў старэйшую дачку ў школу, стаў абсталёўваць хату – думаў ваду правесці, каналізацыю зрабіць.

Докшыцкія чыноўнікі прынялі гэты пераезд насцярожана. Чыноўнікі ж часта насцярожваюцца, калі чалавек хоча сам думаць і сам грошы зарабляць. У хату ўвалілася праверка з інспекцыі па справах няпоўнагадовых. І першай справай запыталіся: а чаму вы прыехалі з Мінска ды ў наш раён? Зрабілі заўвагу, што вопратка ляжыць у пакетах на падлозе, што шпалеры на сценах падраныя, што драўляны плот небяспечны для малых – можна хлуд у палец загнаць.

Да Пасталовых сталі прыходзіць камісіі то са школы, то з міліцыі. Ствралася ўражанне, што яны проста шукалі, да чаго дачапіцца. Гаспадар дома не ведае, што камісія са школы напісала пра яго хату і сям’ю ў сваіх дакументах. Папрасіў паказаць – адказалі, што “паказваць не абавязаны”.

22 кастрычніка, у суботу, а 9-й раніцы, камісія са школы нечакана прыехала ў хату да Пасталовых. Зноў пачаліся заўвагі, дачэпкі. Чаму ложак не засцелены? Чаму на кухні ёсць непамыты посуд?

Праз два дні, у панядзелак, прыехала камісія з пажарнай аховы. Камісія знайшла парушэнні ў канструкцыі печкі і дала рэкамендацыі, што трэба выправіць. Пажарныя, кажа Аляксандр Пасталоў, паабяцалі напісаць хадайніцтва аб дапамозе на рамонт. Аднак рамантаваць печку ўжо не давялося. Бо назаўтрае бацькоў выклікалі ў школу і паставілі ўльтыматум: калі мы праз тыдзень прыедзем і знойдзем у вас які-небудзь недахоп, то забярэм дзяцей і пазбавім бацькоўскіх правоў.

Пасталовы ў той самы вечар сабралі манаткі, селі на машыну і паехалі ў Мінск.

Карэспандэнт “Савецкай Беларусі” прыехаў у Докшыцы і Дубавое, каб паглядзець на ўсё сваімі вачыма. Бо здараецца такое, што людзі гавораць адно, а насамрэч робіцца другое. Карэспандэнт запытаўся ў суседзяў, што яны думаюць пра Пасталовых. Адзін адзначыў, што Пасталовы не ўжываюць гарэлкі. Другі – што дзеці акуратныя і дагледжаныя, што старэйшая дачка добра вучыцца, а малодшая любіць маляваць.

Ніводнага кепскага слова суседзі пра іх не сказалі. Карэспандэнт зайшоў у хату, і таксама нічога страшнага не ўбачыў. На фотаздымках бачна, што хата небагатая, але ўнутры ўсё акуратна. Падлога засцеленая дыванамі, смецця нідзе не бачна.

Намеснік старшыні камісіі па справах няпоўнагадовых Докшыцкага райвыканкама Інэса Марчанкава ды дырэктар сярэдняй школы №2 г. Докшыцы Іван Шкелька сталі расказваць пра непарадак у Пасталовых: што бачылі ў іх нямыты посуд, што кот на падлозе напаскудзіў… Сама болей налягалі на непарадак з печкай. Але за печку Пасталова вінаваціць наўрад ці можна: прадпісанне па рамонце ён атрымаў у панядзелак, а ў аўторак мусіў уцякаць з Докшыцкага раёна.



**Аляксандр Пасталоў з дачкой Машай.** *Фота sb.by*

Магчыма, Аляксандр Пасталоў, прыехаўшы з Мінска ў Докшыцкі раён, кепска разумеў мясцовыя парадкі.

Магчыма, спадзяваўся, што чыноўнікі будуць карэктна да яго ставіцца, а не тыкаць пальцам у брудны посуд і кацінае лайно, пагражаць адабраннем дзяцей ды адмаўляцца паказваць акт, які склалі пра яго хату.

Магчыма, занадта перапалохаўся і блізка ўзяў усё да сэрца. Не ведаем.

Ведаем мы адно: непітушчы чалавек і бацька чатырох дзяцей, які спадзяваўся жыць, працаваць, плаціць падаткі, набываць тавары і паслугі ў Докшыцкім раёне – перапалоханы, мусіў уцякаць з гэтага раёна, баючыся за сваіх дзяцей. І гэта – трывожная рэч.

# Зімовая рыбалка – толькі па пуцёўках!

**Перад надыходам ледастава лічым неабходным нагадаць рыбаловам-аматарам аб неабходнасці набывання пуцёвак на платнае аматарскае рыбалоўства на арандаваных вадаёмах раёна.**

■ **Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету*



Практычна з першых дзён зімовай рыбалкі ўзнікаюць пытанні з нагоды арэнды вадаёмаў і збірання платы за аматарскае рыбалоўства на арандаваных вадаёмах. Карыстаючыся чуткамі аб скасаванні дамовы арэнды, многія рыбаловы адмаўляюцца купляць у арандатараў пуцёўкі на платных вадаёмах, асобныя нават патрабуюць даць ім нават каву на лёд, персанальны туалет і шмат чаго іншага, ствараючы канфліктныя сітуацыі на роўным месцы.

Як правіла, толькі пасля ўмяшання работнікаў міжраённай інспекцыі арандатар вырашае канфліктную сітуацыю, нягледзячы на тое, што жыхары нашага раёна часта наведваюць вадаёмы нацыянальнага парку «Браслаўскія азёры» і ніхто нават думкі не дапускае рыбачыць без рыбалоўнай пуцёўкі, патрабаваць персанальны туалет альбо асобную стаянку. Усе купляюць пуцёўкі, таму што як толькі прыедуць інспектары аховы парку, то выпішуць штраф у памеры ад 20 да 50 базавых велічынь.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя чарговы раз паведамляе аб усіх арандаваных вадаёмах Глыбоцкага раёна, на якіх арганізавана платнае аматарскае рыбалоўства і на якія неабходна набываць пуцёўкі.

**На тэрыторыі Глыбоцкага раёна платнае аматарскае рыбалоўства арганізавана на наступных вадаёмах:**

возера Чачалі, возера Марцэбылінскае, возера Вялікая Пліса, возера Белае (в. Бабруйшчына), возера Падавута, возера Крывое-2, возера Карпінскае, Бярозаўскае.

На названых вадаёмах рыбаловам-аматарам, усім без выключэння, у тым ліку і мясцовым жыхарам, неабходна набываць пуцёўкі на платнае аматарскае рыбалоўства, для мясцовых – бясплатныя пуцёўкі альбо льготныя. У выпадку адсутнасці пуцёўкі альбо адмовы рыбалова набываць пуцёўку ў арандатара вадаёма, дзеянні грамадзян разглядаюцца як адміністрацыйнае правапарушэнне, прадугледжанае ч.1 арт.15.35 Кодэкса Рэспублікі Беларусь "Аб адміністрацыйных правапарушэннях", г.зн., здабыча рыбы без належнага на тое дазволу (пуцёўкі на платнае аматарскае рыбалоўства).

Такім чынам, дзеянні ўпаўнаважаных асоб арандатараў рыбалоўных угоддзяў прызнаюцца законнымі і абавязковыя да выканання рыбаловамі, таму просьба быць узаемна ветлівымі і выконваць Правілы рыбалоўства.

Названымі вышэй арандатарамі рыбалоўных угоддзяў выкананы неабходны пералік патрабаванняў для арганізацыі платнага аматарскага рыбалоўства, аднак з боку супрацоўнікаў Глыбоцкай міжраённай інспекцыі і іншых кантралюючых органаў патрабаванні да пераліку паслуг, што аказваюцца арандатарамі, будзе ўзмоцнены, бо неабходна развіваць сферу паслуг з боку арандатараў. У 2016 годзе большасць арандатараў рыбалоўных угоддзяў правялі зарыбленне вадаёмаў, некаторыя па некалькі разоў, шчупаком, карасём, карпам.

Нагадваем усім рыбаловам-аматарам пра неабходнасць выканання нормы вылаву рыбы ў суткі на аднаго рыбалова - 5 кг., а таксама дазволенай для вылаву прамысловай меры рыбы. Так, шчупак дазволены для лоўлі – 40 см і больш, судак - 40 см, замер робіцца ад галавы да пачатку хваста.

Па пытаннях арганізацыі платнага аматарскага рыбалоўства Вы можаце звярнуцца да супрацоўнікаў міжраённай інспекцыі па названых ніжэй тэлефонах. Заклікаем рыбаловаў-аматараў не карыстацца чуткамі, кшталту адна бабка сказала, якіх-небудзь змяненняў, дапаўненняў у Правілы рыбалоўства няма, любую цікавую для Вас інфармацыю можаце атрымаць па тэлефонах міжраённай інспекцыі.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету выказвае падзяку грамадзянам за дапамогу ў захаванні нашых прыродных багаццяў.

***

**Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефоны Глыбоцкай міжраённай інспекцыі: 2-86-70 "тэлефон даверу", маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**

# Прафілактыка ВІЧ-інфекцыі: прадухіліць заражэнне вельмі проста



**ВІЧ-інфекцыя – гэта захворванне, якое ўзнікае пры пранікненні ў арганізм чалавека віруса імунадэфіцыту чалавека (ВІЧ).**

■ **Л. Козел,** *загадчык аддзела эпідэміялогіі Глыбоцкага РЦГЭ*

Трапляючы ў арганізм чалавека, вірус паступова паражае клеткі крыві, якія з'яўляюцца часткай імуннай (ахоўнай) сістэмы арганізма.

У Рэспубліцы Беларусь на 1 лістапада 2016 года зарэгістравана 21 805 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі, колькасць людзей, якія жывуць з ВІЧ – 16 954. У Віцебскай вобласці зарэгістравана 1 177 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі, колькасць людзей, якія жывуць з ВІЧ – 939. У Глыбоцкім раёне з 1987 года па цяперашні час было выяўлена 8 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі, па стане на 1 лістапада гэтага года – адзін ВІЧ-пазітыўны памёр.

Агульная колькасць выпадкаў ВІЧ-інфекцыі ва ўзроставай групе 15–49 гадоў складае 20 337 чалавек (удзельная вага ў агульнай структуры ВІЧ-пазітыўных – 93,3%). Асноўныя шляхі распаўсюджвання ВІЧ-інфекцыі – палавы.

Крыніцай інфекцыі з'яўляецца чалавек на ўсіх стадыях развіцця захворвання. ВІЧ-пазітыўныя людзі могуць не здагадвацца аб тым, што яны з'яўляюцца носьбітамі віруса аж да моманту атрымання вынікаў абследавання на ВІЧ, ці да моманту ўзнікнення першых сімптомаў. Пры гэтым пачатковыя сімптомы неспецыфічныя, яны могуць нагадваць іншыя захворванні. На працягу некалькіх гадоў адзінай прыкметай хваробы можа быць павелічэнне лімфатычных вузлоў, затым дадаюцца ўздым тэмпературы, працяглыя растройствы кішэчніка, патлівасць, пахудзенне. Толькі абследаванне на ВІЧ-антыцелы можа пацвердзіць або абвергнуць ВІЧ-інфікаванне.Здаваць аналіз на ВІЧ-інфекцыю варта праз 3–6 месяцаў пасля сітуацыі, небяспечнай у плане заражэння ВІЧ, гэты час неабходна арганізму для выпрацоўкі антыцелаў да віруса.

СНІД (Сіндром набытага імуннагадэфіцыту)–канчатковая стадыя ВІЧ-інфекцыі, якая характарызуецца зніжэннем функцыі імуннай сістэмы да крытычнага ўзроўню.У выніку чалавек непазбежна захворвае цяжкімі інфекцыйнымі хваробамі, лячыць якія вельмі цяжка, так як арганізм хворага сам ніяк не супрацьвіцца развіццю гэтых хвароб.

ВІЧ-інфекцыя перадаецца праз кроў, сперму, вагінальны сакрэт, грудное малако. Для таго, каб адбылася перадача віруса, адна з гэтых вадкасцяў чалавека, які жыве з ВІЧ, павінна патрапіць у крывацёк або на слізістую іншага чалавека. Існуе тры шляхі перадачы віруса:

■ палавы – пры неабароненым палавым кантакце з інфікаваным партнёрам; выкарыстаннепрэзерватыва зніжае рызыку заражэння;

■ парэнтэральны (праз кроў) – пры выкарыстанні агульных інструментаў (іголак, шпрыцаў) пры ўнутрывенным увядзенні наркотыкаў; ўжыванні нестэрыльных медыцынскіх інструментаў, колючых і рэжучых прадметаў (лёзаў для галення, манікюрных прылад і да т.п.);

■ вертыкальны (ад маці да дзіцяці) – інфікаваная жанчына можа перадаць вірус свайму дзіцяці падчас цяжарнасці, родаў, а таксама пры кармленні грудзьмі.

Вірус імунадэфіцыту чалавека дрэнна захоўваецца ў знешнім асяроддзі. ВІЧ не перадаецца бытавым і паветрана-крапельным шляхам. Немагчыма заразіцца пры дотыку, поціску рукі, сяброўскіх пацалунках, выкарыстанні агульнай пасцельнай бялізны і посуду, пры кашлі і чханні, пры ўкусах насякомых.

Прадухіліць заражэнне вельмі проста. Дастаткова папярэдзіць патрапленне ў ваш арганізм біялагічных вадкасцяў іншага чалавека. Гэта значыць:

● карыстацца прэзерватывам пры палавым кантакце;

● выконваць асабістую гігіену – выкарыстоўваць індывідуальныя інструменты для галення, манікюру, педыкюру, гігіенічных працэдур;

● пры правядзенні медыцынскіх маніпуляцый, звязаных з парушэннем цэласнасці скуры і слізістых, выкарыстоўваць толькі аднаразовыя інструменты.

Пры ўсіх падазрэннях, якія ў вас узніклі, атрымаць кансультацыю можна ў любой арганізацыі аховы здароўя, таксама ў нашым раёне можна пракансультавацца і па тэлефонах "гарачай лініі" – 2-15-49 (дзяржаўная ўстанова "Глыбоцкі раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі", 5-42-57 (Установа аховы здароўя "Глыбоцкая ЦРБ"). Прайсці тэставанне на ВІЧ (у тым ліку і ананімна) можна ў любой лячэбнай установе краіны.

## МНС інфармуе

**на 22.11.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 624;
Гібель людзей – 72, з іх 1 дзіця;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 18;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

